# ЗАРАНКА



Кніжка 2.



Не я бью, верба бье!
За тыдзень-Вялікдзень!
Будзь здароў, як вада,
І багаты, як зямля!..

Прыгаварываюць дзеці і моладзь бьючы адны адных пруткімі галінкамі вербы ў Вербную Нядзелю. Сьмеху пры гэтым і жартаў не мала, а яшчэ цешыць вясёлая надзея блізкога сьвята, Вялікадня.

У радасны дзень Вялікадня зьбіраюцца па вёсках гурткі дзяцей і моладзі з чырвонымі яечкамі ў руках; пачынаецца вясёлая гульня, сьмех, жарты і песьні.— Вялікдзень-гэта першае і самае вясёлае веснавое сьвята.

У старыя, старыя часы, калі нашы дзяды-прадзяды былі паганамі і верылі ў розных паганскіх багоў, першым веснавым сьвятам была—Радаўніца. Прыходзілася яна якраз у той час, калі зіма нас пакідала, а надходзіла доўгачаканая вясна, з новым жыцьцём і харaством.

У нашых паганскіх прадзядоў кожная пара году мела сваю багіню; багіняй зімы была Марэна, багіняй вясны — Лёля. Праводзінамі Марэны і закліканьнем Лёлі — пачыналася сьвята Радаўніцы. Зьбіралася шмат людзей і старых і маладых, і дзяцей, прыбяралі куль саломы ў жаноцкую вопратку і нясьлі яго (быццам тую багіню, Марэну), тапіць у блізкую рэчку.—Калі ўжо пазбыліся Марэны, а з ёй разам панаваньня зімы, пачыналі рупіцца, каб хутчэй прышла багіня вясны Лёля.

Вось цяпер пачыналася заклікаканьне вясны, якое цягнулася ад так званага вербніка да Радаўніцы. У кожнай вёсцы зьбіраліся ўсе маладыя дзеўчата, выхо-

дзілі на ўзгорак каля вёскі, выбіралі з паміж сябе найпрыгажэйшую, прыбіралі яе ў белую вопратку, зелень і вянок з веснавых кветак.

Гэтак прыбраная дзяўчына прадстаўляла багіню Лёлю. — Пасадзіўшы яе на самым высокім мейсцы, таварышкі клалі перад ею вянкі, ставілі хлеб, масла, сыр, сьметану, і ўзяўшыся за рукі хадзілі наўкола яе пяючы;

Ой вясна, вясна!
Ды якая-ж ты красна!
Мы табе сьпяваем,
Цябе, міла, спатыкаем.
Сьпявайма-ж братачкі
Кожны ля сваей хатачкі
Дзеткі нашы гурбою
Веселяцца вясною;
Пaплясківаюць ручкамі,
Падрыгіваюць ножкамі.
Пажанем мы волікі,
Будзем пасьвіць конікі,
Будзем кветкі зьбіраць,
Будзем вянкі сплятаць.—

Пасьля такога заклiканьня,—паводле веры нашых прадзедаў — вясна мусіла ўжо запанаваць на зямлі, і можна было прыступіць да сьвяткаваньня самай Радаўніцы, якой названьне паходзіла ад слова «радавацца»— цешыцца. На Радаўніцу вялікае значэньне меў абед, на які падавалася ўсё сьвежае, маладое: целята, ягнята, парасята, сыр, масла і яйкі.

Найважнейшай стравай былі—яйкі. Яны азначалі скрытае жыцьцё і маляваліся найчасьцей на чырвоны коляр—коляр веснавога сонейка.

Гэтае сымбалічнае значэньне яечка было так агульным, так распаўсюджаным, што хрысьціянскія апосталы, злучыўшы Радаўніцу з сьвятам Вялікадня, ня толькі не аткінулі яго, але прыдалі яму значэньне хрысьціянскае, якое захавалася па сёняшні дзень.

А проч сьвяточнага абеду, ды чырвонага яечка перанесены з паганскіх часоў на сьвята Вялікадня яшчэ і «валачобнае».

Гэта самы стары астатак мінуўшчыны.

Валачобныя песьні мелі калісь значэньне календара, давалі знаць гаспадару, што вясна наступае, а за ей ідзе лета.

Валачобныя песьні пяюць па сёняшні дзень маладыя хлапцы і дзеўчаты, ходзячы ад хаты да хаты і гэтымі-ж песьнямі выражаюць жаданьне атрымаць «валачобнае» г. з. яйкі, сыр, каўбасу і г. д., якімі пасьля дзеляцца і частуюцца, сабраўшыся на сенажаці каля вёскі ў цёплых праменьнях веснавога сонейка.

Ой ляцелі ды два галубочкі—
    Да віно-ж маё зялёнае.
Нясьлі яны ды два жалудочкі
    Да віно-ж маё.
Ой нясучы «уранілі» (кінулі).
З тых жалудочкаў вырасьлі дубочкі,
На тых дубочках шаўкова расіца.
Хто-ж тую расу атрасаць будзе?
Вышла, вышла красная паненка,
Яна тую расу атрасала,
Белы тварык умывала ..

. . . . . . . . . . . . . .

Малада паненка, не трымай гасьцей,
Не трымай гасьцей, надары барджэй:
Не вялікім дарам, залатым талярам,
Пачынальнічку дзесятачак,
А сьпеваку рубля ў руку.
Механосу карабец яец,
А музыку—горкая доля—
Кварту гарэлкі ды сыр на талэрку,
Каўбасою абкружыці
Белым маслам забяліці
    Да віно-ж маё зялёнае!

Л. В.



# Дзьве лялькі.

Ў залатой кароне косаў
Перавітых стужкай сіняй, —
Выглядае мая лялька



Каралеўнаю, княгіняй.
З пад павек зіркаюць вочы
Ледзяной красою зораў.
І расшыта ўся сукенка
Пышнай сеткаю вузораў...
Прытуліць яе баішся,
Бо патрэцца шоўк спаднічкі,
Цалаваць яе ня сьмееш, —
Зблекнуць шчочкі чараўнічкі.
І сядзіць яна княгіняй
На канапе, пад сьцяною
З перавітай стужкай сіняй
Залацістаю касою.
А пад домам, на каменьнях
Цэлы дзень пяе дзяўчынка,
Туліць ляльку на каленях
І цалуе што — часінка.
Лялька скручана з анучаў
Спавіта ў фартух падраны
І чарнілам нос і вочы
Абы як нарысавана.
Але моцна, моцна туліць
І цалуе яе маці...
Чаму ляльку — каралеўну.
Так ня можна цалаваці!

*Н. А.*

М. АНТАНОЎСКІ.

# Апавяданьні цёткі пары

З Расейскага пераклаў А. Б.

## III. Агонь і сернікі.

Так, так, цар Агонь вельмі любіць падарожнічаць; дзе-дзе яго толькі няма! — гаварыла Пара. Супольна з сьвятлом і цяплом ён бадзяецца па небе ў граманосных хмарах, хаваецца ён і ў куску сухога дрэва...

— У серніках! — падхапілі дзеці.

Ад сьмеху Пара закалыхалася ў паветры.

— Крыху не адгадалі, мае вы дзеткі. Сернікі выдумалі людзі шмат пазьней і, як кажуць, самі ўжо ў іх насялілі агонь! А ў старадаўныя часы чалавек мог дастаць агонь толькі з дрэва. Дзеля гэтага дзікі чалавек ўзяўшы два кускі сухога дрэва і пучок сухой травы, хутка пачынаў цёрці кусок аб кусок, пакуль дрэва не запалівалася, а з ім і сухая трава.



Даставаў чалавек агонь і другім спосабам: браў драўляную палачку з вельмі цьвярдога дрэва, і хутка ей круціў дзірку ў сухім мяккім дрэве да тае пары, пакуль дрэва не запаліцца.

— Абавязкава пастараемся дабыць агню такім спосабам! — сказаў хлапец.

— Але гэта ня так лёгка — запярэчыла Пара — ды і доўга, ня хопіць цярпеньня. Нездарма пасталіся людзі прыдумаць лепшы спосаб, дзеля хут-

чэйшага здабываньня агню. Ды такія палкі цяпер вельмі трудна знайсьці на ўсім сьвеце. Яшчэ іх толькі знаходзяць ў зямлі з рэшткамі людзкіх касьцей.

Калі людзі паразумнелі, яны пачалі агонь красіць: бралі крамень з вострымі берагамі, каля яго клалі перапаленую анучку і да тае пары білі куском сталі па вострым крамяні, пакуль не пасыпаліся іскры і адна з іх не запалівала вугля анучкі.

Даволі было падзьмуць і змусіць вугаль гарэць.

Так было выгадней, чым даставаць агонь з сухога дрэва. Яшчэ, разумеецца, выгадней запаліць сернік. Адразу да сернікаў людзі не дадумаліся. Спачатку яны выдумалі асаблівую губу з бярозавага і асінавага грыбоў, каторую мачылі ў сялетры — мінэрале, падобным да солі. Сялетра вельмі добра і хутка запаліваецца. Яшчэ хутчэй запаліваецца серка, і людзі пачалі рабіць сернікі, каторых адзін канец намазвалі серкай. Але гэтакія сернікі мелі вельмі благі пах і хутка псаваліся.

Тады сталі мачаць сернікі ў фосфар. Сернікі выразаюць з сухога дрэва рукамі ці машынай; дзеля гэтага бяруць драўляныя дошчачкі і разразаюць на правільныя палачкі, а пасля гэтыя палачкі абмачываюць у фосфары.

Фосфар дабываюць з касьцей жывёлы.

Дзеля гэтага косьці жывёлы паляць на вольным паветры і ў попеле знаходзяць фосфар, каторы пасьля прадаецца як палачкі белага коляру. Ёсьць і чырвоны фосфар.

Для сернікаў бяруць белы фосфар, мешаюць яго з камедзьдзю, сялетрай і хварбай.

Камедзь, сялетру і хварбу распушчаюць у сьцюдзенай вадзе; гэтую сумесь крэпка награваюць і кідаюць у яе цьвёрдыя кусочкі фосфару, каторыя таксама ў ей распушчаюцца.

Сумесь расьціраюць, мяшаюць і ў яе падсыпаюць тэй самай берталетавай солі, каторай дзеці палошчаць прастуджаная горлачка.

Атрымоўваецца густая ліпкая жыжка, у каторай і мачаюць сернікі. Калі ўжо сернікі гатовы, іх кладуць у скрыначкі і прадаюць. Даволі чыркнуць сернікам аб шаршавы бок скрыначкі і агонь ёсьць.

Вось як умудрыліся людзі схаваць агонь у сернікі.

## IV. Аб лямпе і газе.

Ого, мае міленькія, — весела забурчэла Пара — якое ў вас сёньня асьвятленьне; ня толькі топіцца печка, але і лямпа гарыць на стале. Што за сьвята?

— Добры дзень, цётачка! Ніякага сьвята ў нас няма — адказала маленькая гаспадыня — але такі туман на дварэ, што ў хаце зусім цёмна, а мне трэба шыць, вось я і запаліла лямпу...

— Бачыш, цётка, агонь яшчэ хаваецца і ў лямпе, ты нам гэтага яшчэ не апавядала, падхапіў хлапец

— Так, так. Адразу, дзіцятка, ўсяго не раскажаш ды і ня прыпомніш; за шмат я ведаю ды і гісторыя лямпы доўгая. Але як магу і ўмею так табе я і раскажу.

Даўна, вельмі даўна упалі з неба на зямлю сонечныя коскі. Было гэта тады, калі яшчэ на зямлі ня было людзей, а яна сама была падобна на плоскі востраў абкружаны вадой. На тым востраве расьлі дрэвы, каторых галіны амаль не даставалі неба, а лісьця прагавіта ўпівалі сьвятло. Залезьлі сонечныя коскі ў гэтае лісьцё і, як ім здавалася, на заўсёгды ў ім улягліся.

Доўга жыло дрэва, пакуль зусім ня струхлела, яно падгніло, паваліляся і доўга, доўга ляжала ў сырой балотнай зямлі.

З працягам часу на тым мейсцы, дзе быў лес, утварылася мора; на старыя дрэвы хвалі нагналі пяску, зямлі, гліны і дрэвы перасталі гніць; наадварот, яны зацьвярдзелі — яны ператварыліся ў чорны камень, каторы называем „каменным вуглём. Сонечныя коскі, улёгшыся некалі ў зялёных лістках, жылі цяпер у каменным вуглі бліскучыя і чорныя, як чорныя шкляныя пацеркі.

Глыбака ў зямлі, дзе ляжаў каменны вугаль заўсёды гарэў агонь, зямля ўсё больш і больш награвалася, і ад гэтае гарачыні з каменнага вугля выцякла жыдкое гарачае масла — нафта, а разам з ей і сонечныя коскі.

Прайшло яшчэ шмат нязлічанага множства гадоў. Вада зьбегла, мора высахла і на яго мейсьцы паднялася новая зямля. Жыхары гэтае зямлі ў пластох каменнага вугля прабілі дзірку і жыдкая нафта забіла ў гару высокім стаўбом ці фантанам. Людзі яе сабралі ў вялізарныя катлы, пераварылі, перагналі праз халодныя трубы і нафта ачысьцілася і ператварылася ў газу.



Вось гэтая самая газа і гарыць у вашай маленькай лямпачцы, паднятыя па кноце да машынкі.

Да канца кноту паднясьлі запалены сернік, ён нагрэў газу і сьвятло, каторае там спала ад даўных часоў, прачнулася.

Так, так, агонь, каторы так ясна сьвеціць у нашых лямпах па сутнасьці — ня што іншае, як быўшыя старадаўныя сонечныя коскі.

(Працяг будзе).

# Што ты робіш?..

Што-ж ты робіш, мой сыночак,
Зусім жаласьці ня маеш...
На што катка за хвасточак
Ты, распусьнік, так цягаеш?

Ці-ж табе яго няшкода?
Гэта-ж чуеш, як ён енчыць!
Што твая гэта за мода?
Так катка ці-ж можна дрэнчыць.

Ну, а я што вінаваты,
Кот-жа сам кудысьці пнецца.
Ён як бачу, дурнаваты,
Мне малому так здаецца.

Бо чаго так вырабляцца?
Я нарэшце ўсё-ж нязнаю,
Бо я толькі, як прызнацца
За хвасток крыху трымаю.

*Ст. Станкевіч.*



# Скуль узяліся у нас бярозы і асіны.

Гарачае, ой, якое гарачае было лета? Людзі абліваліся потам, жывёла хавалася ў кусты ад гарачыні і ад мухаў; нат птушкі змоўклі і драмалі ў цяньку зялёных галінак.

— На вузкім загоне жала трое людзей: бацька, маці і дачка. Бацька і маці, хоць пот ліўся цурком з іх твараў, працавалі шчыра, каб толькі зжаць хутчэй сваю ніўку. Але-ж дачка ня тое: аглядалася, па-

цягівалася, пастойвала. Відаць гультай быў добры. Наракала то на гарачыню, то на мухі; то жалілася, чаму не наляціць цёмная хмарка, чаму дожджык халодны не асьвежыць зямлі. — Не памагалі просьбы мацеры, ні пагрозы бацькі.

Наканец маці, угледзеўшы, што дачка ізноў стаіць рукі злажыўшы, ня выцярпела, ды са злосьці крыкнула: „Чагож ты ізноў стаіш? А, каб ты стала асінаю!“

— У дрэнную гадзіну быў кінуты праклён. — У моманцік ногі дзяўчыны перамяніліся ў пень, каторы ўрос у зямлю; рукі вырасьлі ў паднятыя ў неба галіны, пакрытыя круглаватымі, зялёнымі лісточкамі, каторыя так бязупынку дрыжэлі, як дрыжэла ў мінуту праклёну цела спалоханай дзяўчыны.

Загаласіла маці, заплакала. Абыма рукамі ўхапілася за галаву, рве валасы.

Распляліся косы, сьлёзы ракой ліюцца...



— Спалоханы бацька анямеў на хвіліну, ды і ён як загалосіць: „А што-ж ты нарабіла!.. а долячка мая нешчасная .. а каб це Бог за гэта пакараў: каб ты сама бярозаю стала!...

— Стаіць маці рукі апусьціўшы. Белая яе вопратка белай карой стала; валасы галінкамі тонینькімі, цёмнымі, бліскучымі да зямлі звешваюцца; як густыя сьлёзы, дробныя лісьця па галінках сплываюць.

— Стала маці бярозаю.

Многа вякоў з таго часу прайшло, а бярозы і асіны разьвяліся ўсюды па нашай зямлі.

*З. Верас.*

# Цацкі уласнай работы.

## ВАЎЧОК.

Надышло сьвята. Прыяжджаюць дамоў школьнікі, дзе іх вітаюць з радасьцю ня толькі бацькі, але і малыя браты ды сястрычкі. Дзетак найбольш цікавіць, што старэйшыя браты прывязьлі, што ім новага раскажуць, чым з імі бавіцца будуць...

Радзім вам, мілыя чытачы, зрабіць сваім братом ці сястрычкам, каторага небудзь з „ваўчкоў“, якіх ўзоры падаем ніжэй. Ведаем наперад, што радасьці будзе шмат.

Першага „ваўчка“ (фіг. 1-я) зрабіць лёгка і хутка:—З цьвёрдага картону вырэзываем кружок якой хочам вялічыні. Праз яго сярэдзіну перасоўваем кароткі загостраны алавік. — Калі такога „ваўчка“ моцна закруціўшы ў руках пусьцім на кусок чыстай паперы, то ён пасоўваючыся па паперы ў розныя бакі, будзе рысаваць на ёй ўсякія, часта прыгожыя ўзоры.



Фіг. 1.

Другі „ваўчок“ (фіг. 2) цяжэйшы да выкананьня але затое пякнейшы.



Каб яго зрабіць мусім мець два коркі; адзін большы з бутэлькі ад піва, другі маленькі з бутэлячкі ад лякарства. Абодва коркі зрэзываем гострым нажом, каб былі зусім роўныя і тады кладзем меньшы на большы, як-бы галаву на тулава. Моцна нагрэўшы кусок роўнага дроту перасоўваем яго наскрозь праз сярэдзіну абодвух коркаў; пасьля дрот выцягіваем, а ў зробленую ім дзірку ўстрэмляем роўненькі, глядкі, добра загостраны пруток. „Ваўчок“—гатовы. Астаецца толькі яго памаляваць. На меньшым корку робім: вочы, брові, вусны, а як хто хоча то і вусы, а на большым—гузікі, пояс, можна рукі і г. д.

# Разумныя мурашкі.

Усе дзеці любяць есьці салодкія рэчы: мёд, цукар, цукеркі, ды салодкія цестачкі. Ня меньш, чым дзеці, любяць гэтакія прысмакі — мурашкі.

Адзін натураліст (вучоны, што робіць досьледы над зьявішчамі прыроды) бачыў, як раз мурашкі вельмі хітрым способам здабылі сабе салодкае цеста, якое ляжала ў каморцы на талерцы

Цеста лежала пасярод талеркі аблітае кругом нейкім салодкім сокам, праз які мурашкі ніяк не маглі перабрацца. Доўга яны бегалі па берагу талеркі надумываючыся, што ім рабіць? Хутка відаць прыйшла ім ўгалаву добрая думка: знайшлі яны самае вузкое мейсца ў кругу соку, пакінулі там пару сваіх таварышак, а рэшта пабегла да сьценкі, знайшла там дзірку ад гвазда і пачала насіць адтуль зярняткі пяску ды брукаваць імі сьцежачку праз сок да цеста. Пасля трох гадзін мазольнае працы, сьцежачка была гатовай і мурашкі наеліся дасыта пажаданага прысмаку.

# Загадкі.

1) Замест кропак пастаўце галосныя літары атрымаеце беларускую прыказку:

.к.г..сьцьм .тк..т.г.г.л..к.гл.дк.



2) **Рассыпанка:**

З ніжэй пададзеных складоў-злажыць імя і прозьвішча беларускай паэткі:

ка - цы - лян - я - стан - б у й - кан.

3) Разьдзяліце 5 яблыкаў паміж пяцёра дзяцей так, каб кожнае атрымала па аднаму яблыку і каб адзін яблык астаўся ў кошыку.

**Колькі катоў?**

У пакоі чатыры куты. У кожным куце сядзіць кот. Супроць кожнага ката па 3 каты. На хвасьце кожнага ката па адным каце. Колькі ўсіх катоў у пакоі?

---

## Разгадкі круцігаловак і загадак з кніжкі 1-ай

Круцігалоўкі квадратнай.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **З** | р | э | н | к | а |
| Б | **я** | р | о | з | а |
| М | у | **з** | ы | к | а |
| С | ь | ц | **ю** | ж | а |
| М | а | т | у | **л** | я |
| П | а | г | о | н | **я** |

Зязюля.

**Круцігалоукі са складоу.**

**Алесь Гарун.**

**А**фрыка
**Л**іпень
**Е**ўка
**С**алавейка
**Ь**
**Г**усьвіца
**А**нтон
**Р**ута
**У**любенец
**Н**ёман

ЗАГАДКІ.

1) Замок.
2) Стол.
3) Яйка.

# Чужым розумам.

Пудаль Флёк—„сабака матэматык быў улюблёным сабакам клёўна*) Гоша. Клёўн навучыў яго пазнаваць цыфры на картах; Флёк умеў рабіць складаньне і адніманьне. Выводзячы пудаля на арэну цырку, клёўн змушаў Флёка нат варажыць на картах. Пудаль Флёк ніколі не памыляўся, але заўсёды ў часе прэдстаўленьня ён уважна ўглядаўся на свайго гаспадара і па яго абліччы, па руху рукі, або топаньню нагі — адразу разумеў, што яму трэба рабіць. Клёўн Гош так-жа ўважна сачыў за сваім вучням і заўсёды яму памагаў. Але гэта была тайна хітрага Флёка; пра тое ён нікому з сваіх таварышаў не казаў.

Вучоны мулік (конь), іншыя сабакі, і вучоная сьвіньня Чучундра—усе не маглі надзівіцца з Флёка.

— Ды няўжо вы ўмеецее рахаваць як людзі—дзівіліся з яго.

— А як-жа, паважна махаў хвастом мудры Флёк.— Што хочаш парахую.

Толькі белы пудаль Флік, які нядаўна быў куплены да трупы, якога клёўн Гош яшчэ не пачынаў навучаць розных фокусаў не хацеў яму верыць.

— Брэша ён, бурчэў Флік і скаліў зубы ў бок Флёка.— Нічога ён ня ведае і не разумее, а робіць, што яму прыкажуць.

— Дык і сьвіньня Чучундра хутка будзе занімацца матэматыкай. Дурань ён, што хваліцца! Вось і ўсё...

Флёк зазлаваўся. Флёк бурчэў на новага таварыша, Флёк скаліў зубы, але Флік толькі дабрадушна памахваў хвастом...

— Неяк раз клёўна ня было дома, Флёк пастанавіў правучыць Фліка...

— Хочаш, няцема, я табе ўсе фокусы - мокусы пакажу?—сказаў ён Фліку.

— Калі ласка! усьміхнуўся Флік.

— Ну задавай заданьні! — сказаў ён.

— Колькі нас усіх у пакоі? — запытаўся Флік.

Флёк вытарашчыў вочы:

— А я скуль ведаю?...

*) Клеўн — цырковы штукар.

Флік толькі усьміхнуўся.

— Дык паваражы на картах.

Флёк зараз разлажыў карты, сеў над імі і задумаўся.

Ну што-ж?—сьпяшыць яго Флік.

Флёк падскочыў, забегаў кругом разложаных картаў, стаў гаўкаць, пішчэць.

— Ну што, разумееш

— А ні крышачкі!

Бачу, што ты дурны, Флёк, калі каля цябе няма нашага гаспадара.

І мулік, і сьвіньня Чучундра і другія сабакі—ўсе аж пакаціліся са сьмеху. Тут ужо Флёк ня вытрымаў, кінуўся на Фліка і пакаціліся абодва, гаркаючы і кусаючы адзін аднаго.

Добра, што ў тую часіну вярнуўся клёўн Гош і іх разьняў, бо было-б чыстае няшчасьце.

З расейскага пераклаў А. Б.

---

Вучыцель: — Скажыце мне, Янка, чаму ў моры вада салёная?

— Бо ў ім селядцы плаваюць — адказвае вучань.

---

# Рэха.

Розныя весткі, розныя здрарэньня, падхоплівае рэха і разносіць па ўсей нашай зямельцы; розныя весткі і добрыя і благія...

На гэты раз прынясло яно нам радасную вестку, якой хочам падзяліцца з нашымі чытачамі.

У Наваградзкім павеце, у Карэліцкай гміне ёсьць вёскі Руткавічы-Зарэчча і Руткавічы-Новыя. У абедзвюх вёсках былі польскія школы, але - ж дзеткам у іх цяжка было вучыцца. Тады бацькі пастанавілі прасіць, каб адчынілі беларускую школу.—Але-ж просьба асталася бяз выніку: ні тая ні другая вёска школы не дасталі.

Пабачылі дзеці, што без навукі дрэнна і пастанавілі самі, сваімі сіламі дабівацца асьветы. Сталі яны зьбірацца, радзіцца і ў канцы пастанавілі: пакінуць гуляць у карты пакінуць курыць табаку, а сабраўшы грош да граша, купіць беларускіх кніжак. — Так і зрабілі. — Купіўшы кніжак да чытаньня і сцэнічных твораў для дзіцячага тэатру, яны прыгатавалі п'еску „Дзіўны Лапаць".

Навучыліся шмат розных вершаў і на Новы Год зрабілі ёлку і прэдстаўленьне. — Сабралася шмат дзяцей і старшых сялян з другіх вёсак.

Спаткалі разам Новы Год і ў гарачых прамовах прысягнулі глядзець адзін за адным, каб ня курылі, у карты ня гулялі, каб ня было ніякіх лаянак і нічога благога, а хто-б зламаў прысягу, таго пастанавілі выкінуць з сваей дзіцячай грамады.

— Чэсьць і слава Руткаўскім дзеткам!

---

А можа ў хуткім часе рэха прынясе нам мілую вестку, што і другія дзеці пашлі за прыкладам Руткаўскіх. — Чакаем.

## Ад рэдакцыі.

Дарагія чытачы!

У чароднай, III-яй кніжцы „Заранкі" адчыняецца аддзел пад загалоўкам: „Працы нашых чытачоў" — у якім будзем друкаваць сабраныя самымі дзяцьмі: прыказкі, прыпеўкі, казкі; зробляныя імі апісаньні вёсак, мястэчак, рэк, вазёраў, лясоў, ды і іншыя, маючыя вартасьць творы.

Пісаць трэба чыста, выразна і коратка. Падпісываць: імя прозьвішча, вёску і павет.

Думаем, што гэтакіх дзіцячых твораў набярэм шмат, так што друкаваць будзем толькі самыя лепшыя. Дзеля гэтага, да працы, мілыя дзеткі, пішыце, ды старайцеся. Хто ляпей напішэ, хто першы стане ў рады супрацоўнікаў „Заранкі"? — Чакаем.

**Рэдакцыя.**

---